# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА



ГОД ВЫДАНЬНЯ 4

Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

1932 г.

## Прымаецца падпіска на 1932 год

на двухтыднёвую дзіцячую часопісь **„ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА“**

„Іскры Ільліча“ ставяць сваёй задачай абслугоўваць дзяцей 7—10 гадавога ўзросту, часткова—дашкольнікаў.

„Іскры Ільліча“ у даступнай для дзяцей літаратурнай форме знаёмяць сваіх чытачоў з соцыялістычным будаўніцтвам, з гэроямі-ударнікамі пяцігодкі, організуюць дзяцей для актыўнага ўдзелу на ўсіх франтох нашага вялікага будаўніцтва.

„Іскры Ільліча“ зьмяшчаюць матар'ял з жыцьця замежных дзяцей.

„Іскры Ільліча“ ў 1932 годзе даюць чытачом кожны месяц дармовыя дадаткі. З гэтым нумарам рассылаецца першы дадатак—Маўзалей Леніна.

Выпісвайце і чытайце часопісь **„Іскры Ільліча“**

**Умовы падпіскі:**

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год | . 3 р. | 60 к. |
| „ 6 м-цаў. | 1 „ | 80 „ |
| „ 3 „ | — | 90 „ |

**Падпіска прымаецца** усімі лістаносцамі, поштаю, упаўнаважанымі друку.

У выпадку недасылкі часопісі зьвяртайцеся ў паштовае аддзяленьне, дзе была здадзена падпіска, а калі там ня прымуць захадаў—паведамляйце рэдакцыю, якая высьвятліць прычыны неатрыманьня.

*Адрас рэдакцыі і канторы: Менск, Комсамольская, 25*

**ЗЬМЕСТ**



Фотографія вокладкі запазычана з часопісі „СССР на стройке“.

Афармленьне нумару мастака *А. Тычына*



# 8 ГАДОЎ БЯЗ ЛЕНІНА

Сапраўднае прозьвішча Леніна—Ульянаў. Ленін — яго партыйная клічка.

Радзіўся Ўладзімер Ільліч Ленін 22-га красавіка 1870 г. у г. Сімбірску (цяпер—Ульянаўск).

Вучыўся маленькі Ўладзімер вельмі добра. Нездарма-ж тав. Ленін так клапаціўся аб тым, каб і ўся працоўная моладзь, у першую чаргу, добра вучылася.

— **Вучыцца, вучыцца і вучыцца,**—такі галоўны наказ пакінуў Ленін моладзі.

Гэты наказ усе дзеці павінны помніць і выконваць.

Сястра Леніна ў сваіх успамінах расказвае, што Ленін у дзіцячыя гады быў вельмі жвавым, шустрым і вясёлым хлопчыкам. Любіў забавы і гульні. Але заўсёды пачынаў гуляць толькі тады, калі вывучаў заданьні.

Калі Ленін скончыў гімназію (сярэдняя школа), ён паступіў вучыцца ў вышэйшую школу—унівэрсытэт. Але адтуль яго скора выключылі за рэволюцыйную работу.

З 1896 да 1900 г. Ленін знаходзіўся ў турме ў Сібіры. Туды выслаў яго царскі ўрад, як рэволюцыянэра.

У час рэволюцыі 1905 г. Ленін знаходзіўся ў Расіі і прымаў актыўны ўдзел у рэволюцыі.

Пасьля разгрому рэволюцыі 1905 г. т. Ленін выехаў заграніцу, адкуль праз друк і партыю бальшавікоў кіраваў рэволюцыйным рухам у Расіі.

У 1917 г. Ленін вярнуўся ў Расію. У Расіі ён згуртоўвае рабочых, праводзіць сярод іх вялікую масавую работу, узьнімае працоўных на змаганьне за пролетарскую рэволюцыю, супроць буржуазіі і яе ўраду.

Пад кіраўніцтвам Леніна працоўныя перамаглі буржуазію ў кастрычніку 1917 г. і стварылі Савецкую ўладу.

Першым старшынёю першага ў сьвеце Рабоча-сялянскага ўраду—Савету Народных Камісараў—выбіраецца У. І. Ленін.

На гэтым пасту Ленін працаваў аж да сьмерці.

Тав. Ленін, які аддаў сваё жыцьцё за справу рабочых, ведаў, што адзін, без рабочых і бядняцкага сялянства, ён ня зможа змагацца супроць буржуазіі. З першых-жа гадоў свае рэволюцыйнай работы т. Ленін пачаў заклікаць рабочых і бядняцкае сялянства на бой з ворагам. І яны пашлі за ім.

Тав. Ленін згуртаваў лепшых сьвядомых рабочых у Комуністычную партыю (бальшавікоў), якой ён кіраваў і разам з якой змагаўся. Пасьля сьмерці тав. Леніна Комуністычная партыя працягвае справу, за якую змагаўся яе організатар і правадыр.

Тав. Ленін быў неразрыўна зьвязаны з масамі. Сябе ён лічыў толькі адным з перадавых рабочых. Вось чаму масы любілі свайго правадыра і пашлі за ім на змаганьне.

Памёр тав. Ленін 21-га студзеня 1924 г. у 6 гадзін 50 хв вечара.

Ленін пакінуў працоўным вялікі скарб—сваё вучэньне аб тым, як давесьці да канца рэволюцыю,—пабудаваць новае жыцьцё, як змагацца працоўным усяго сьвету за сваё вызваленьне.

За мінулыя 8 гадоў партыя і ўсе працоўныя дабіліся вялізарных перамог. Многія заветы правадыра ўжо выкананы. Напрыклад, Ленін пры жыцьці марыў аб тым, каб мець 100.000 трактараў для нашай сельскай гаспадаркі. Зараз нашыя трактарныя заводы за адзін толькі 1932 год дадуць 82 тысячы трактароў.

**Справа Леніна жыве ў сэрцах працоўных усяго сьвету.** Пад сьцягам правадыра сусьветнага пролетарыяту т. Леніна працоўныя змагаюцца з буржуазіяй і перамогуць яе.

Апавяданьне І. КАГАНОУСКАЙ.




Малюнкі ПАШКЕВІЧА.

У пакоях былога графскага палацу цяпер дзіцячы дом імя Леніна. Як і заўсёды, тут ідзе работа. Дзяцей многа. Рознакалёрныя дзіцячыя галоўкі. Але сёньня чамусьці вельмі сур'ёзныя і заклапочаныя дзіцячыя тварыкі.

Нарады на работу дае брыгадзір Міхаська—старэйшы з дзяцей.

— Як пастанавіў сход, Луіза павядзе брыгаду на завод, каб разам з рабочымі рыхтаваць падарункі дзецям зьняволеных у капіталістычных краінах. Гэта будзе лепшы наш падарунак у гадавіну сьмерці Леніна. Луіза, ты справішся з работай? — запытаўся Міхаська.

Вочкі Луізы загарэліся.

— О, чаму-ж не. Я абвяшчаю сябе ўдарніцай на гэтай рабоце. Я зьбяру шмат грошай.

Усяго некалькі год таму назад, яна дачка нямецкага чыгуначніка, забітага паліцэйскімі на дэмонстрацыі, сама атрымлівала дапамогу ад сясьцёр і братоў з СССР.

У сталярным пакоі кіпіць работа. Тут працуюць брыгады старэйшых дзяцей. Яны рыхтуюцца да ранішніка, прысьвечанага памяці правадыра працоўных —Леніна.

— Фрыда сёньня раздае прылады: яна дзяжурыць у сталярнай,—кажа Васіль, сын забітага ў грамадзянскую вайну рабочага-пуцілаўца.

— Ні адна Фрыда,—Фрыда і я,—кажа Янэк.—А Лейбэлэ мне дапамагае. Лейбэлэ, хочаш памагаць?—запытаўся Янэк у бледнага чорнавокага хлопчыка.

Янэк і Лейбэлэ—старыя дружакі, прывезеныя з Польшчы. Бацькі Янэка—польскія рэволюцыянэры, пасаджаныя фашыстамі ў турму. Бацькі Лейбэлэ забіты польскімі фашыстамі ў час пагрому. Дзеці не расставаліся і тут.

Раздалі прылады, разьмеркавалі работу. Тры брыгады рабілі з дошак маўзалей. Яны хацелі да ранішніку ўпрыгожыць пакой маўзалеем.

Дзьве другія брыгады, якімі кіравалі Тоні і Анютка, рабілі падарункі дзецям колгасьнікаў. Тоні—сын вэнгэрскага рабочага. Ён добра памятае той час, калі бацька яго адстрэльваўся ад паліцэйскіх, уцякаючы праз вакно. У бацькі знайшлі падпольную комуністычную літаратуру і хацелі за гэта забраць яго. Але бацька ня даўся жывым у рукі фашыстам...

Тоні тут нядаўна. Але так прывык, што ня можа сабе ўявіць, як ён жыў раней без Анюткі, Міколы, Рэмы, Лэі і ўсіх, усіх такіх добрых таварышоў.

А з пакою маленькіх чуюцца сьпевы. Дзеці сабраліся ў кружок і разам з кіраўніцай сьпявалі.

| | |
|---|---|
| Будзем змагацца<br>За справу мы Леніна. | Вырасьцем моцнай<br>Гартованай зьменаю. |

На сярэдзіне пакою стаяў і ўсьміхаўся тоўсты, кучаравы нэгрык Том. У другім куточку малыя рабілі жалобныя сьцяжкі, каб упрыгожыць пакой.

Кіпіць работа ў пакоях былога графскага палацу. Дзеці рыхтуюцца да ленінскіх дзён. А калі ўсё будзе гатова, дзеці запросяць да сябе рабочых заводу. Раскажуць ім рабочыя пра жыцьцё і барацьбу правадыра, пра сваё жыцьцё і работу.

Маюць што расказаць рабочым і гэтыя маленькія дзеці розных краін, бацькі якіх аддалі сваё жыцьцё за справу Леніна.

Прынятыя ў сваю пролетарскую сям'ю нашымі акцябратамі, растуць і выхоўваюцца разам маленькія ленінцы. Выхоўваюцца аднэй цеснай працоўнай сям'ёю, каб стаць сапраўнымі ленінцамі.



# КНОПКА

*(З запісак А. СЬМІРНОВАЙ)*

Было гэта зімою 1920 г.

Я і яшчэ трое дзяцей пашлі спушчацца на санках з гары каля Крэмля. Але там было многа дзяцей, і мы парашылі пайсьці ў Крэмль,—там таксама вялікая гара.

Сеўшы ў санкі, я паляцела ўніз да канца гары, дзе стукнулася галавою аб нешта і выкацілася з санак у сьнег. Я ляжала тварам уніз і думала: аб што гэта я магла так стукнуцца?

Раптам нада мною хтосьці стаў сьмяяцца, а потым падымаць мяне.

Я ўстала і ўбачыла, што сані мае адляцелі ў бок, а каля мяне стаялі два чалавекі, і абодва, гледзячы на мяне, рагаталі.

Аднаго з іх я пазнала: гэта быў тав. Ленін. Я яго бачыла 1-га мая на Хадынцы *), дзе я была з татам. Ён тады назваў мой маленькі нос „кнопкай“.

— Добры дзень! Гэта вы?—закрычала я, гледзячы на Ільліча.

— Адкуль ты мяне ведаеш?—запытаўся Ленін.

— Ну, вось,—летась на Хадынцы вы мяне клікалі гуляць да сябе, а... Сьмірнову, „кнопку“, памятаеце?

— Ці-ж гэта ты? Ба, ба, ба, — як вырасла! Ну, чаму ты ня прыходзіла да мяне? Ды і дзе-ж твая „кнопка“ (кнопкай ён назваў мой нос).

— Я ня прыходзіла таму... Ха-ха-ха, — расьсьмяялася раптам (я, перапыніўшы гутарку,—дык гэта я на вас наляцела? Вось дык штука!

Уладзімер Ільліч таксама сьмяецца.

— Ха-ха-ха... Іду я і гляджу—хтосьці з гары імчыцца, проста галавою ў ногі мае... Траха не паляцеў.

— Здарава гэта я, проста на вас.

— Але, я думаў,—ты выцялася.

— Не, я зноў пайду езьдзіць, хадзем і вы са мною.

— Ну, я санкі твае зламлю.

*) Пляц у Маскве.

— Гэта не мае. Ну, дык лепш пагуляем у салкі. Вы будзеце салкай.

— Ну, бяжы.

Я пакінула санкі і пабегла па сквэрыку, а Ленін за мною.

— Даганю, даганю,—сьмяяўся Ільліч даганяючы.

Спачатку я чула за сабою пагонаю, але раптам за мною ўсё сьціхла.

Я спынілася—нікога няма. Вярнулася назад і знайшла Ільліча за дрэвам, дзе ён схаваўся ад мяне.

— Ну, цяпер бяжэце вы, а я вас буду даганяць,—сказала я.

— Добра.

Мы зноў пабеглі. Вось, вось я даганю яго, хачу ўдарыць сьнежкаю, а ён у бок.

Я ўжо страціла надзею дагнаць Ільліча, як раптам у яго з нагі скінулася галёша.

— Ўра, я вас дагнала,—крычала я, падняўшы галёшу.

— Не, гэта няправільна,—сказаў Ільліч і хацеў узяць галёшу. Але я раптам адскочылася ад яго. Ён за мною.

— Ах ты хітруня,—сьмяючыся, крычаў Ільліч,—аддай галёшу.

— Ня дам, ня дам... Злавеце, тады аддам.

Мы беглі ў гэты час міма незнаёмага чалавека, што быў з Леніным. Ён з усьмешкаю загарадзіў дарогу Ільлічу.

— Хопіць, вы змарыліся, ды і дамоў нам пара.

— Але, ужо трэба ісьці,—сказаў Ільліч.





# МЯЧЫК

Жылі дзеці ў колёніі. Аднаго разу прыехаў да іх Ленін. Бачыць: сумна дзецям, мячыка ў іх няма.

Прыехаў ён другі раз. Выбеглі дзеці яго сустракаць, а ён ім кажа:

— У вас у кусьце мядзьведзь завёўся. Пайдзеце вось, паглядзеце самі.

Зразумелі дзеці, што гэта жарт. Падбеглі да куста і знайшлі там вялікі мячык. Проста з магазыну: у паперу заверчаны і шпагацінай перавязаны.

Ай-да мядзьведзь!

---

**„Са сьцягам Леніна перамаглі мы ў баёх за Кастрычніцкую рэволюцыю. Са сьцягам Леніна дабіліся мы рашаючых посьпехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва. З гэтым-жа сьцягам пераможам у пролетарскай рэволюцыі ва ўсім сьвеце. Няхай жыве Ленінізм!“ (І. Сталін).**

# ГУЛЬНЯ Ў МЯЧЫК

Быў Ленін у гасьцях у свайго таварыша Падвойскага.

Пад'ехаў да ганку аўтомобіль. Ленін з Падвойскім вышлі на ганак, а за імі выскачылі дзеці. Сеў Ленін з Падвойскім у аутомобіль кудысьці ехаць і кажа:

— Трэба дзяцей з сабою ўзяць, глянь, як яны пазіраюць на нас.

Узялі, а ў дзяцей з сабою мячыкі былі.

— Гэта ў вас што,—пытаецца Ленін,—мячыкі? Давайце гуляць у мячыкі.

І пачалі мячыкі з рук у рукі перакідваць. Аўтомобіль бяжыць, а яны гуляюць. Так да самага канца і прагулялі.

---

# ВЫКАНАЕМ ЗАВЕТЫ ЛЕНІНА

**Будзем змагацца за якасьць вучобы, за політэхнічную школу**

Тав. Ленін аддаваў маладому пакаленьню бальшавікоў вялікую ўвагу. Моладзі належыць вялікая будучыня. Яна павінна закончыць справу бацькоў, справу Леніна. Але, каб спраўдзіць такія надзеі правадыра, моладзь павінна многа вучыцца, быць падрыхтаванай на змаганьне за новае жыцьцё, за канчатковую пабудову комунізму.

У 1920 годзе на зьезьдзе комсамолу тав. Ленін выказаў свае думкі аб задачах моладзі. Праўда, Ленін гаварыў да комсамольцаў. Ні піонэраў, ні акцябрат тады яшчэ ня было. Але думкі Леніна адносяцца ня толькі да комсамолу, а і да ўсяго падрастаючага пакаленьня, значыцца, і да піонэраў, і да акцябрат.

Старая гвардыя бальшавікоў, па думцы Леніна, ня можа разьлічваць на тое, каб убачыць комуністычную грамаду.

„А тое пакаленьне, якому зараз пятнаццаць гадоў, яно

і ўбачыць комуністычную грамаду і само будзе будаваць гэтую грамаду"

(Ленін).

Пакаленьне, пра якое гаварыў тав. Ленін, ужо вырасла. Яно ўжо актыўна змагаецца за выкананьне заветаў свайго правадыра. Новая моладзь прыходзіць у жыцьцё. Прыходзіць у той час, калі мы ўступілі ўжо ў пэрыод соцыялізму, калі мы сталі на многа бліжэй да комуністычнай грамады. Аднак, работы новай моладзі вельмі многа.

Асноўная задача моладзі, па думцы Леніна, — **вучоба**. Але чаму вучыцца і як вучыцца?

**„Трэба вучыцца комунізму"**, кажа тав. Ленін. Гэта значыць, трэба вучыцца таму, як будаваць новае жыцьцё, як змагацца за пабудову комуністычнай грамады.

Як вучыцца?

**Вучыцца ня толькі па кніжках. Вучобу кніжную трэба цесна ўвязваць з пасільнай для дзяцей грамадзкай работай.**

Наша партыя паставіла перад грамадзкасьцю задачу — стварыць такую політэхнічную школу, якая-б выхоўвала высока адукаваных людзей, патрэбных будаўнікоў соцыялізму.

Змагацца за якасьць вучобы, за новую політэхнічную школу, быць актыўнымі ўдзельнікамі будаўніцтва — нашы задачы. Гэтым самым мы будзем выконваць заветы тав. Леніна.

# РОЎНА Ў ЧАТЫРЫ

**У час пахаваньня правадыра сусьветнага пролетарыяту тав. Леніна ва ўсёй нашай краіне быў спынены рух на пяць хвілін.**
**Мільёны працоўных у буржуазных краінах таксама прымалі ўдзел у пахаваньні свайго правадыра, спыніўшы на гэты час работу. Аб гэтым гаворыць нам апавяданьне „Роўна ў чатыры".**

Па роўнай дарозе блізка Лёндану імчыцца аўтомобіль.

Буржуй Хэнг вельмі сьпяшаецца. Ён павінен прыехаць на сход раней за свайго ворага, другога буржуя. Буржуй Хэнг — уладар вялікіх багацьцяў.

# ЛЕНІН ЛЮБІЎ ДЗЯЦЕЙ,

Як шкло, блішчыць чорны аўтомобіль.

Шофэр таксама ўвесь час паглядае на гадзіньнік.

А ён чаго? Таксама сьпяшаецца?

Не. Яго правая рука спыняе аўтомобіль.

Буржуй Хэнг вельмі сьпяшаецца. У чым справа?..

Шофэр моўчкі скідае шапку і кладзе яе на рулявое кола.

На гадзіньніку роўна чатыры.

— Колькі табе заплацілі, каб я спазьніўся? — закрычаў разгневаны буржуй.

Шофэр маўчыць. Па твары паволі кацілася салоная кропля.

Буржуй Хэнг пасуліў шофэру тысячу рублёў. Але шофэр нават не адказаў на гэта ні слова.

Праз пяць хвілін зноў рука шофэра апусьцілася на рулявое кола.

Толькі крыху пачакаўшы, шофэр павярнуўся і коратка сказаў буржую:

„У Маскве роўна ў чатыры пахавалі Леніна. Рух спыніўся на пяць хвілін“.

— Заўтра-ж—вон! — закрычаў буржуй Хэнг.



За тое, што шофэр даказаў сваю адданасьць справе рабочых, ён страціў месца працы.

## І МЫ ЯГО ЛЮБІМ!

У НАС 1932 ГОД БУДЗЕ ГОДАМ ЗАКАНЧЭНЬНЯ ПЯЦІГОДКІ, ГОДАМ БУРНАГА РОСКВІТУ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ

# МЫ ПЕРАМОЖНА БУДУЕМ СОЦЫЯЛІЗМ

## РОСТ ГАЛОЎНЫХ ГАЛІН НАШАЙ ГАСПАДАРКІ Ў ГЭТЫМ ГОДЗЕ

**У 1932 годзе мы ўкладваем наступныя сумы грошай у народную гаспадарку:**

прамысловасьць — 10 мільярдаў 700 млн. рублёў (у 1931 годзе было вызначана 8 мярд. 200 млн.); соцыялістычная сельская гаспадарка — 4 млрд. 360 млн. руб. (у 1931 г. — 3 млрд. 600 млн. руб.); зарплата і культурнае будаўніцтва — 26 млрд. 800 млн. руб. (у 1931 г. — 21 млрд. 100 млн. руб.).

**ЗА ШТО СССР БУДЗЕ ЗМАГАЦЦА Ў 1932 ЗАВЯРШАЛЬНЫМ ГОДЗЕ ПЯЦІГОДКІ**



**ЗА** здабычу 90 мільёнаў тон каменнага вугалю



**ЗА** 1700 новых МТС (машынатрактарных станцый)





**ЗА** выпуск 82 тысяч трактароў
„ 73 тысяч аўтомабіляў
„ 1300 паравозаў
„ 50 тыс. таварн. вагонаў







**ЗА** павялічэньне жывёлы: па аб'яднаньні „Скотавод“ да 2.950.000 галоў, па „Сьвінаводу“ да 2.900.000 галоў, па „Аўцаводу“ — 7.300.000 гал., па „Масла-аб'яднаньні“ да 320.000 кароў.





**ЗА** выплаўку 9 млн. тон чыгуну
„ 9,5 млн. тон сталі



**ЗА** тысячы новых будынкаў для рабочых, за новыя соцыялістычныя гарады.





**ЗА** пуск 24 доменных печаў







**ЗА** палепшаньне рабочага снабжэньня.
новыя пролетарскія кадры, за ўсеагульнае навучаньне.



**ЗА ПЯЦІГОДКУ Ў ЧАТЫРЫ ГАДЫ**

У КАПІТАЛІСТАЎ 1932 ГОД БУДЗЕ ГОДАМ ДАЛЕЙШАГА ПАГЛЫБЛЕНЬНЯ КРЫЗІСУ І БЕСПРАЦОЎЯ, ГОДАМ УЗДЫМУ РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ХВАЛІ

МІХАСЬ ЧАРОТ




Быў пастухом...
Мазыршчыны балоты
Ён мерыў лапцямі
Уздоўж і папярок...
Ня раз пакрыўджаным
Ён начаваў пад плотам,
Любіў адно:
Палескай ночы змрок.

Сінь вышыні
І мігаценьне зораў
Як многа дум
Навейвалі Міколе!..
Чуў ад людзей,
Што ёсьць далёка горад,
Каб быць у ім—
Ня марыў ён ніколі.

Такі ўжо лёс,
Як і бацьком,—батрачыць,
Перад багатымі
Гнуць сьпіну, біць паклон...
Але жыцьцё
Вірліць пашло іначай
І старадаўшчыну
Забрала у палон.

Вайна—вайне!
Другой вайны пачатак.
У шаснаццаць год
Наш партызан Мікола
Чырвоным гнаў
Адкормны панскі статак...
Мазыршчына...
Лясы, балоты, поле...

Ён партызан
І бойкі, і адважны,
Знаём яму
Тут кожны лог і кусьцік...
Вядзе атрад,—
Паслухае, прыляжа...
А ворага
Жывым ён не адпусьціць.

Мінулі дні—
Ён камандзір чырвоны,
Наган ў руках,
Ў кішэні партбілет...
Ня страшна сьмерць,
Свабоду хто бароніць.
Будуе хто
Нязнаны новы сьвет.

Два разы ранены
На калчакоўскім фронце.
Чырвоны сьцяг



У бойцы за Кранштадт...
Заўжды наперадзе
Быў у сваёй ён роце, —
Для рэволюцыі
Надзейны бы салдат.



Франты прайшоў
А сіла ўсё-ж ня гасьне,
У бойцы клясавай
Наносіць метка ўдар...
Ня так даўно
Спаткаў яго ў колгасе...
Ён старшыня —
Найлепшы гаспадар.

І сакратар
Колгаснае ячэйкі,
Якому фронт
Таксама сёньня сьніцца,

Гаворыць мне:
„Ты не знаём яшчэ з кім,
Вось старшыня
Таварыш наш Сініцын!“

Ружовы твар,
Шрам тонкі над брывою,



А зірк вачэй
Наўкол маланкай скача..
Ціха сказаў:
„І тут браць трэба з боем,
Каб найхутчэй
Расправіцца з кулаччам.
Здаецца ўсё
Наладжана ня дрэнна...
Машыны, трактары,
Колгасьнікі на яць!
А вораг ўсё-ж такі не дрэмле,
Ня тут, дык там—
А зуб яго відаць.

На зьдзельшчыну
Колгас наш пераведзен...
Здаволены,
Аб гэтым што казаць...
На сходзе часам
Здарыцца бывае

А хто бузіць?
Бывае і беднота...
Дзіўлюся,
У чым-жа тут прычына?
Глыбей зірнеш—
Кулацкая работа...
Ох, ёсьць ваўкі,
Прыкрытыя аўчынай!
Люблю прастор,
Зялёную шыр поля
І працу дружную
Людзкога колектыву!..“
Пылае радасьцю
Ружовы твар Міколы,
адчуваецца,
Як ён і тут шчасьлівы!

Мы змоўклі ўсе...
Над полем слаўся вечар...
Ды песьня звонкая

Чуваць была дзяўчыны...
А рэйкі звон,
Нібы калісь на веча,
Склікаў колгасьнікаў
Дахаты—на спачынак.

Колгасьніцы
Сустрэлі нас ля гаю,
Шчабечуць птушкамі:
„Таварышок Мікола,
Бач, зьдзельшчына
Сапраўды памагае,—
Працуюць ўсе
І лепш і болей“.

І звонкі сьмех,
І гутаркі, і песьні,
Як-бы ня быў
І цяжкай працы дзень...
Мікола з гордасьцю
У шэрагах іх цесных,
Як камандзір,
З пабеднай бойкі йдзе.

А вечарам
Дае нарад на заўтра...
Ну, вось цяпер
Пара і для спачынку...
Дзе скарб колгасьнікаў—
Пастаўлена ўжо варта...
Мікола йдзе
Пазабаўляцца з сынам.

Чарнявы сын
Параскідае цацкі,
На рукі просіцца,—
Ну, і пашла гульня!
„Глядзі, сынок,
Расьці на зьмену бацькі,
Лажыся спаць,
А мама палюляе“.

Аб справах зноў
Заўюцца думкі роем,
А сэрца стукае
Усяму жыцьцю у такт...
Вось прыклад вам
Колгасьніка-героя,
Ён быў і ёсьць
Герой на ўсіх франтах.





# Мы—ударнікі

У дашкольнікаў сёньня вельмі важны дзень. Будзе праверка работы. Кожны павінен расказаць, што і як ён рабіў за гэты час.

Рана сабраліся дзеці. Старшыня Валодзя адкрыў сход, а Алесь—сакратар, сеў пісаць пратакол.

— Санком, што вы зрабілі?—пачаў Валодзя. Санком — Алеся і Косьця — пачалі гаварыць.

— Я ўважліва ўсіх аглядала і на санітарным лісьце адзначала,—кажа Алеся.

— А я гаварыў дзецям, што сорамна і шкодна быць мурзатымі,—перапыніў яе Косьця. — У нас раней многа дзяцей было адзначана: то за брудную шыю, то за вушы, то за ногі. А цяпер ужо санітарны лісток чысты. Усе стараюцца глядзець за сабою, няма каго і запісаць.

— Так, значыцца, вы працавалі добра — сказаў старшыня, а сакратар запісаў гэта ў пратакол.

Потым пачаў гаварыць загадчык бібліотэкі Толя.

У мяне заўсёды ўсе кнігі ў парадку. Я сачыў, каб яны былі чыстыя...

— А ўсе дзеці добра абыходзіліся з кнігамі?

— Не... Геня і Ася бралі чыстыя кніжкі, а прыносілі іх бруднымі. Ніна парвала ў кніжцы вокладку. За гэта я тры дні не даваў ім кніжак. І яны цяпер так ня робяць, скончыў Толя.

— Цяпер няхай раскажуць зьвеньневыя, як яны працавалі, — кажа Валодзя.

Зьвеньневыя Поля і Петрык пачалі расказваць:

— Я дапамагала дзяжурным, сачыла за чыстатой. Запісвала ў сшытку хто і калі дурэў,— кажа Поля.

— А я сачыў, каб не пазьніліся, каб у час гульні ня выходзілі з радоў,—кажа Петрык.

— Ці сапраўды так працавалі нашы зьвеньневыя?—запытаўся ў дзяцей Валодзя.

— Так! Так! У нас ніхто ня позьніцца. І за сталом заўсёды чыста. Поля і Петрык добра працавалі,—адказалі дзеці.

— Добра працавала наша старэйшая група дзіцячага саду,—кажа Валодзя.

— Цяпер мы можам абвясьціць сябе ўдарнай групай,—ня вытрымала Поля.

— Можам! Можам! Мы—ударнікі, як дарослыя!—падхапілі ўсе дзеці.

*К. ДЗЬМІТРАВА.*



# Расьце новы Менск

Нарыс А. Я.

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

У мінулым Менск быў звычайным губэрскім гарадком царскай Расіі. Брудны, гразкі, з абшарпанымі, лядаштымі домікамі. І толькі ў цэнтры красаваліся касьцёлы, цэрквы і магазыны багатых купцоў. Па вуліцах важна расхаджвалі паліцэйскія, гарадавыя, купцы. Горад ня меў ніводнай вышэйшай школы.

Белапольская навала, якая панавала ў Беларусі ў час грамадзянскай вайны, дарэшты разбурыла горад. Многія кварталы былі зусім зьнішчаны, спалены.

А ў выніку пасьля вайны Менск стаў падобным да руінаў разбуранага, пакалечанага гораду.

Але гэта так было. Гэта ўжо адышло ў нябыт гісторыі.

Залячыўшы раны, нанесеныя пролетарскай сталіцы белапольскай окупацыяй, працоўныя шпарка ўзяліся за адбудову новага соцыялістычнага гораду—Менску. Адзін за другім пачалі ўзвышацца вялізарныя карпусы новых будынкаў. У Менску запахла сьвежаю вапнаю, цэглаю, асфальтам...

Цэнтральныя вуліцы прынялі выгляд акопаў. На вуліцах зазьвінелі рэйкі для будучага трамваю.

Гэта пачала адбудоўвацца нанова сталіца Беларусі. З беднага губэрскага гарадка Менск ператвараўся ў сталіцу харастыва.

Але і гэта для Менску ўжо стала мінулай гісторыяй. За гэты час Менск шагнуў вялізарнымі тэмпамі наперад.

Аднак цяперашні Менск усё-ж ня можа яшчэ задаволіць усіх запатрабаваньняў працоўных.

Наша партыя і ўлада ўзялі гэта на ўвагу і ў канцы 1931 г. выдалі пастанову аб тым, каб палепшыць сталіцу Савецкай Беларусі. Пастанова намячае плян работы на бліжэйшыя два гады.

## 2000 КВАТЭР—РАБОЧЫМ.

Менск расьце. Усе галоўныя ўстановы, фабрыкі і школы знаходзяцца ў Менску. Дзесяткі тысяч новых рабочых, служачых, вучняў і студэнтаў прыбавілася ў Менску за апошнія гады. Таму ня дзіва, што ў горадзе стала цесна. Не хапае будынкаў. Трэба будаваць новыя. І яны будуюцца. За апошнія гады ў Менску пабудаваны цэлы гарадок для унівэрсытэту і шмат іншых будынкаў.



*Чацьвертая Усебеларуская мастацкая выстаўка.*

**А. ТЫЧЫНА. Менск. Ленінская вуліца.**

Але і гэтага ўжо не хапае гораду, які расьце з кожным днём. За бліжэйшы час горад павінен пабудаваць ня менш 2000 новых кватэр, правесьці рамонт усіх старых дамоў. Зараз у Менску будуюць дзесяткі новых клюбаў, бальніц, дзіцячых ясьляў і інш. Будуецца вялізарны будынак—Дом Ураду, дзе будуць працаваць усе важнейшыя дзяржаўныя ўстановы.

## ЗВАЖАЙ! ІДЗЕ ТРАМВАЙ!

Некалькі гадоў таму назад Менск абыходзіўся з 5-6 старэнькімі конкамі, якія марудна калыхаліся і скрыгіталі па цэнтральных вуліцах. Ня было нават аўтобусаў.

Цяпер па вуліцах Менску лётаюць дзесяткі аўтобусаў і трамвайных вагонаў. Менск ажыў.

Але... Менск расьце! На сёньня ўжо гэтага транспорту не хапае. Ня ўсе жадаючыя могуць папасьці ў трамвай. У трамваях стала цесна. Патрэбна больш вагонаў, больш трамвайных ліній, больш аўтобусаў, аўтомобіляў, грузавікоў...

За бліжэйшыя два гады Менск павінен значна пашырыць свой транспорт. Вось лічбы росту:

— 15 кілёмэтраў новых трамвайных ліній;

— 20 моторных вагонаў, 20 прычэпных, 20 грузавых пляцформаў, электравоз, 2 сьнегаачышчальнікі;

— 15 аўтобусаў, 40 грузавых машын, 15 легкавых, 3 лесавозы і інш.

## ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ — СЭРЦА ГОРАДУ.

Без электрычнасьці горад жыць ня можа. Электрычнасьць дае сілу для мотораў усіх фабрык і заводаў, для трамвая. Электрычнасьць асьвятляе вуліцы і будынкі.

Цяперашняя электрастанцыя ня можа даць энэргіі столькі, колькі патрэбна новаму гораду. Гораду трэба новая магутная электрастанцыя. Такая станцыя будзе пабудавана да канца 1932 году.

У горадзе не хапае вады. Дзеля гэтага будуецца новая насосная станцыя. Станцыя будзе даваць 10.000 кубамэтраў вады ў суткі.

## НОВАМУ ГОРАДУ—НОВЫЯ ВУЛІЦЫ

Да гэтага часу вуліцы Менску масьціліся звычайным каменьнем—булыжнікам. Ды і то ня ўсе вуліцы былі замошчаны.

З мінулага году галоўныя вуліцы Менску пачалі апранацца ў новае ўбраньне. Упяршыню на вуліцах Менску зьявіўся новы матар'ял для брукаваньня—брушчатка. Але тэмпы брукаваньня вуліц зусім марудныя. Урад і ЦК партыі далі заданьне Гарсавету ўзмацніць тэмпы брукаваньня вуліц.

За 1932-33 гады павінна быць забрукавана ня менш 70 проц. гарадзкіх вуліц.

## АЗДАРАВІЦЬ ГОРАД

У Менску яшчэ мала лазьняў, мала пральняў. У горадзе мала садоў, зелені.

Партыя і ўрад ставяць задачай, каб за бліжэйшы час пабудаваць дзесяткі новых пральняў, лазьняў, каб насадзіць тысячы новых дрэў. Менск павінен апрануцца ў зелень. Для адпачынку рабочых будзе пабудаваны спэцыяльны Дом ударніка і многа дачных дамоў.

# ЗА ТОНУ АПАРОСУ



Комуністычная партыя і ўрад аддаюць вялікую ўвагу разьвіцьцю сьвінагадоўлі. З сьвіньні за кароткі час можна мець добрыя, патрэбныя нам прадукты для грамадзкага харчаваньня—сала і мяса.

1 Да канца 1932 году стада сьвіней па социялістычным сэктары БССР павінна быць даведзена да 3 млн. 800 тыс. штук, што складае прырост у параўнаньні з 1931 г. на 39,7 проц.





Комсамол Савецкага Саюзу выступіў на змаганьне за тону апаросу ад аднае сьвінаматкі ў 6-цімесячным узросьце. Піонэры і акцябраты павінны дапамагчы комсамолу выканаць з посьпехам гэтыя абавязкі. Будзем разам з комсамолам змагацца за добры догляд сьвіней, за як мага найменшы адыход парасят, ЗА ТОНУ АПАРОСУ!

НА ЗДЫМКАХ (зьверху ўніз): падрыхтоўка корму, сьвінарнік, пояць сьвіней. (Саўгас „СЬЛЯПЯНКА").

# АЎТОМОБІЛЬ

Вазьмеце фанэру ці тонкую дошку і зрабеце часткі аўтомобіля, як паказана на малюнках 1, 2 і 3. Часткі, паказаныя на мал. 2 і 3, можна замяніць каробкамі ці скрыначкамі. Потым зрабеце дзьве бакавыя часткі аўтомобіля, як паказана на мал. 3, з дзірачкамі для восяй. Аўтомобіль можаце рабіць якой хочаце велічыні.

Касьцяк аўтомобіля гатоў (мал. 4, Б). Давайце прымацуем цяпер колы. Спачатку ўмацуйце заднюю вось, потым туга адзеньце на яе колы (мал. 7). сярэднюю вось адзявайце гэтак-жа сама. Толькі ў сярэдзіну адзеньце звычайную шпульку ад нітак (мал. 6), потым, калі адзенеце вось, туга прымацуйце колы, каб яны не спадалі (мал. 7).

Каб ваш аўтомобіль мог сам ісьці, зрабеце так: у дно яго забеце невялічкі кручок (мал 7). Вазьмеце рызінку. Адзін канец яе прывяжэце да кручка, а да другога прывяжэце моцную суравую нітку (мал. 7). Нітку перакіньце праз шпульку зьверху на пярэдняй восі. У задняй восі на сярэдзіне зрабеце дзірачку і прывяжэце ў ёй канец ніткі (мал. 7).

Канец глядзі на 3-й стар. вокладкі зьнізу



# ПАДУМАЙ



Перамалюйце гэтую пляму і разрэжце, як паказана на другім малюнку. Потым паспрабуйце самі з разрэзаных частак злажыць ЗОРКУ, у сярэдзіне якой будзе СЕРП і МОЛАТ.



. . . . . . . .

. . . . . . .

. . . . . . . . .

**Па гэтых кропках напішэце друкаванымі літарамі слова, якое азначае правадыра сусьветнага пролетарыяту.**



**А дваіх тут яшчэ ня відаць. Пашукайце, дзе яны падзеліся?**

**АДКАЗЫ** *на загадкі з № 12.*

1. Макаўка. 2. Рэшата. 3. Вецер. 4. Нікулькі. 5. Радыё. 6. Дняпро. 7. Можна. Трэба з запалак злажыць літары слова „мэтр“.

Цяпер праверце, ці добра ўсё зроблена. Вазьмеце аўтомобіль у рукі і пачынайце круціць заднюю вось колькі можна. Ад гэтага рызінка будзе расьцягвацца, а нітка накручвацца на вось. Цяпер пастаўце аўтомобіль і ён сам пойдзе, бо рызінка будзе зжымацца і цягнуць за сабою накручаную на восі нітку. Нітка будзе пакручваць вось разам з коламі.

Зьверху на сваёй машыне вы можаце прымацаваць скрынку (мал, 3), радыятар (мал. 2), руль (мал. 8). Потым машыну афарбуйце, і ўсё гатова (мал. 10).



10.

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

Рэдактары: УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.

~~Цана асоб. нумару 18 кап.~~

**Да гэтага нумару даецца дармовы дадатак—МАЎЗАЛЕЙ ЛЕНІНА**




**Дзеці! Рэдакцыя просіць вас маляваць лепш за ўсё чорным альбо чырвоным чарнілам, а таксама рысавальнымі карандашамі (чорным, чырвоным, жоўтым). Рысаваць трэба адным колерам увесь малюнак.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2569. Упаўнаваж. Галоўлітбелу № А—3000.














## Як зрабіць маўзалей

Дастаньце крыху таўсьцейшай, чым гэта, паперы, на якую трэба будзе наклейваць асобныя часткі маўзалею. Можна клеіць і з гэтай паперы. Пасьля гэтага пачынайце работу,

Адразу вазьмеце склейце першую частку маўзалею, азначаную літараю „А“ з стрэлкаю. Клеіць трэба так, каб усюды папалі літары „Т“ на „Т“.

Другую частку „Б“ клеіць трэба так, як і першую, каб адна літара папала на другую (А на А, Б на Б, В на В, Г на Г). Часткі „В“, „Г“, „Д“ складваюцца таксама, як і другая. Калі склеіце ўсе пяць частак, тады накладвайце адну на другую парадку—„А“, „Б“, „В“, „Г“, „Д“ так, каб аднолькавыя лічбы зьверху папалі адна на другую (напр., 1 на 1, 5 на 5 і г. д.).

Калі ўсё гэта склеіце, тады прыклейце да бакоў: усходцы „20“ з левага боку, а „29“—з правага. Нарэшце, прыклейце сьценкі з бакоў да ўсходцаў: да боку „25“ прыклейце сьценку „25“ (азначаную стрэлкай). Тое-ж зрабеце і з другою сьценкай. Потым вазьмеце тоўстай паперы для асновы і на яе наклейце ўвесь маўзалей месцамі, азначанымі крыжыкамі.

Зрабеце ўсё так, як тут сказана, і маўзалей будзе гатовы. Застанецца толькі расставіць чырвонаармейцаў і дэманстрацыю, але гэта можна зрабіць самім, як каму падабаецца. Пажадана, каб усё гэта прарабіць колектыўна. Калі што не зразумееце, запытайце настаўніка, ён вам дапаможа.









